*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 52(108) ◈ 30 снежня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)



## З надыходзячым Новым годам, шаноўныя спадары!





## Усім арганізацыям Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

«Наша слова» (№ 49 ад 9 снежня) ужо паведаміла аб тым, што Рэспубліканская Рада ТБМ прыняла рашэнне аб правядзенні 26 сакавіка 1993 г. III з'езда ТБМ з абмеркаваннем пытання «Аб стане работы па выкананні Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і Дзяржаўнай праграмы па яго ажыццяўленні».

Відавочна, што на з'ездзе будуць абмеркаваны і іншыя надзённыя пытанні дзейнасці Таварыства, у тым ліку:

— вынікі асветніцкай і гаспадарчай дзейнасці арганізацый ТБМ;

— аб арганізацыйнай структуры ТБМ і яе ўдасканаленні;

— змены ў Статуце Таварыства;

— супрацоўніцтва арганізацый ТБМ з арганізацыямі-заснавальнікамі і другімі грамадскімі арганізацыямі;

— адносіны мясцовых органаў улады да рэгіянальных арганізацый ТБМ, іх сумесная дзейнасць па ажыццяўленні Закона аб мовах;

— супрацоўніцтва арганізацый ТБМ з аналагічнымі аб'яднаннямі блізкага і далёкага замежжа і інш.

У сувязі з гэтым звяртаемся да вас з наступным: калі ласка, прышліце да канца студзеня 1993 года ў Сакратарыят Рэспубліканскай Рады ТБМ наступныя звесткі:

— колькасны склад арганізацыі па стану на 1-га студзеня 1993 г.— колькасць суполак і колькі яны аб'ядноўваюць сяброў Таварыства, прозвішчы старшынь, намеснікаў, скарбніка, адрас, а калі ёсць тэлефон — яго нумар, нумар банкаўскага рахунку; якія самадзейныя аб'яднанні, прадугледжаныя Статутам, створаны пры арганізацыі ТБМ, з якімі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі супрацоўнічае Таварыства;

— якую дапамогу і падтрымку аказваюць ТБМ мясцовыя органы ўлады, арганізацыі-заснавальнікі Таварыства, сродкі масавай інфармацыі;

— якую работу праводзіць арганізацыя ТБМ па стварэнні беларускамоўнага асяроддзя, па садзейнічанні дзяржаўным сродкам і грамадскім арганізацыям у вывучэнні беларускай мовы, пераводу справаводства на беларускую мову;

— калі пры ТБМ (раёна, рэгіёна) створаны юнацкія (дзіцячыя) секцыі (суполкі) ТБМ, паведаміце, па магчымасці, падрабязна пра іх работу, якія формы гэтай работы імі выкарыстоўваюцца (алімпіяды, конкурсы, лекторыі, гурткі, мастацкая самадзейнасць, шэфская работа, удзел у працы пастаянных камісій, а таксама ў іншай дзейнасці, прадугледжанай статутам ТБМ);

— неабходна таксама даслаць фінансавую справаздачу па стану на 1-га студзеня 1993 г. аб прыбытках, расходах і рэшце грашовых сродкаў на рахунках арганізацыі ТБМ. Рэшта грошай павінна быць пацверджана выпіскай з банка. Справаздачу просім даслаць не пазней канца студзеня.

Да канца студзеня 1993 г. неабходна правесці справаздачна-выбарчыя канферэнцыі ТБМ, на якіх падвесці вынікі работы, вызначыць меры па далейшым ўдасканаленні дзейнасці Таварыства, удасканаленні арганізацыйнай структуры, выбраць дэлегатаў на III з'езд ТБМ у разліку — два дэлегаты ад раённай (рэгіянальнай) арганізацыі, адзін — ад калектыўных сябрын, якія зарэгістраваны сакратарыятам ТБМ. Пры гэтым неабходна паклапаціцца, каб на з'езд трапілі найбольш ініцыятыўныя і актыўныя сябры ТБМ.

Лічым неабходным і мэтазгодным выкарыстаць падрыхтоўку да з'езда для пашырэння сеткі першасных суполак, павелічэння колькасці сяброў Таварыства. Вельмі важна, каб у час правядзення справаздачна-выбарчых канферэнцый там, дзе да гэтага часу адсутнічаюць, былі створаны арганізацыі ТБМ.

Для дапамогі ініцыятыўным групам па стварэнні арганізацый ТБМ прыводзім узор Рэгістрацыйнага ліста.

І ў заключэнне, карыстаючыся нагодай, выказваем шчырую падзяку ўсім актывістам ТБМ за падтрымку і актыўны ўдзел у высакароднай справе адраджэння мовы, дзякуем таксама тым, хто знайшоў магчымасць падтрымаць Таварыства матэрыяльна. Гэта вельмі дорага для нас і не толькі з матэрыяльнага боку.

Сардэчна вінушем усіх прыхільнікаў Роднага Слова з Калядными святамі і наступаючым Новым годам! Добрага ўсім здароўя, поспехаў ва ўсіх добрых справах, асабістага шчасця.

САКРАТАРЫЯТ ТБМ
імя Ф. СКАРЫНЫ.

## Рэгістрацыйны ліст

*Рада (раён, горад) паведамляе пра стварэнне рэгіянальнай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і просіць сакратарыят ТБМ зарэгістраваць яе сяброўства ў Таварыстве.*

*Рада, рэгіянальная арганізацыя (раён, горад) ТБМ поўнасцю прызнае Статут Таварыства і будзе паслядоўна ажыццяўляць яго мэты і кіравацца яго ідэямі ў працы па адраджэнні беларускай мовы, далучэнні сяброў ТБМ, усіх жыхароў роднага краю да скарбаў культуры Бацькаўшчыны, выхаванні ў суайчыннікаў нацыянальнай свядомасці, а таксама павацжлівасці адносін з боку грамадзян Беларусі ўсіх нацыянальнасцей да беларускай культуры і мовы.*

*Адначасова паведамляем:*

1. Месца, час правядзення рэгіянальнага сходу.
2. Колькасць удзельнікаў, асаблівасці асабовага складу (па сацыяльнаму становішчу, узросту, адукацыі, нацыянальнасці).
3. Склад выбарных органаў.
4. Удзел рэгіянальнай арганізацыі, рады ў працы сталых камісій ТБМ, іншыя запланаваныя формы дзейнасці.
5. Колькасць створаных да дня сходу суполак і характар іх дзейнасці.
6. Іншыя звесткі.
7. Змест прапаноў, выказаных на ўстаноўчым сходзе рэгіянальнай арганізацыі Таварыства беларускай мовы Рэспубліканскай Радзе, Сакратарыяту і камісіям Таварыства.

Подпісы старшыні рэгіянальнай рады ТБМ, старшыні або сакратара ўстаноўчага сходу.

## Працяг традыцыі

Сярод сучасных беларускіх календароў адрыўны каляндар «Родны край» па заслугах лічыцца адным з лепшых. Сёлета выдавецтва «Беларусь» традыцыйна выпусціла «Родны край» і на наступны 1993 год.

Кожны лісточак календара нечым адметны, бо асвятляе пэўныя падзеі ў жыцці Бацькаўшчыны. І, прызнацца, перш чым упрыгожваць хату «Родным краем», узнікае ахвота перагарнуць старонкі, каб даведацца, чым будзе знамянальны для нас будучы год. Ужо 2 студзеня будзе святкавацца стагоддзе вядомай паэткі, беларускага грамадскага дзеяча Канстанцыі Буйло, залатому юбілею якой прысвечаны артыкул Дзіяны Чаркасавай.

Акрамя памятных, старонкі календара ўводзяць нас і ў свет феналагічных назіранняў, знаёмяць з рознымі народнымі прыкметамі: «Студзень, — чытаем у календары, — году пачатак, а зіме палавіна; Калі ў студзені дажджы — дабра не жджы; Зоркі ноччу як у тумане — перад дажджом».

Вельмі істотна, што аснову календара, яго стрыжань складаюць матэрыялы, прысвечаныя гісторыі Беларусі, беларускай культуры, літаратуры і мастацтву. Аўтары лаканічных, але даходлівых матэрыялаў — вядомыя ў рэспубліцы навукоўцы, пісьменнікі, дзеячы культуры. У календары выкарыстаны выявы гербаў з кнігі гісторыка Анатоля Цітова «Гарадская геральдыка Беларусі».

«Родны край» — цудоўны падарунак усім, хто па-сапраўднаму любіць нашу Беларусь.

А. К.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І РЭСПУБЛІКАЙ МАЛДОВА ПАДПІСАНЫ ДАГАВОР АБ ДРУЖБЕ І СУПРАЦОЎНІЦТВЕ.*



Сустрэча кіраўнікоў СНД у Менску, назначаная на 25 снежня, перанесена на 22 студзеня.



*З 1 СТУДЗЕНЯ 1993 ГОДА ГРАМАДЗЯНЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МОГУЦЬ БЕЗ ВІЗЫ ПЕРАСЯКАЦЬ ГРАНІЦУ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА.*



У Доме літаратара адбылася прэм'ера кнігі беластоцкага пісьменніка Сакрата Яновіча «Самасей».



*У ГАЛЕРЭІ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА МЕНСКАГА ПАЛАЦА ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ адкрылася выстава жывапісу выпускнікоў мінулага года Беларускай акадэміі мастацтваў.*

# ГОЛАС БОЖЫ»

*саўшы смяротны прыгавор беларускай мове. Увайдзіце ў гісторыю як абаронцы беларускай мовы, зацвердзіўшы Канстытуцыяй статус яе дзяржаўнасці. (Пястун В. І., Куліцкая С. С., Майчан І. У., Янель Н. І., Хіхіч В. Ю. і інш., усяго 23 подпісы, Мядзельскі раён, 30.10.92).*

* * *

З абурэннем чую выступленні «народных» дэпутатаў супраць беларускай мовы, сцяга і герба. У расійскіх шавіністаў і ў іх халуёў з беларусаў, якія выступаюць ад імя беларускага народа, празаецца зноў звярыны аскал. Няхай яны помняць — час не той і беларусы ўжо не тыя. (А. Блінкоўскі, г. Баранавічы, 09.11.92).

* * *

*Мне вельмі спадабаліся выказванні на сесіі аб роднай мове С. Шушкевіча і Н. Гілевіча, якія вельмі коратка, але трапна вызначылі гістарычны шлях яе развіцця ў мінулым, яе ролю ў сучаснай незалежнай Рэспубліцы Беларусь.*

*І сапраўды, якая ж гэта будзе незалежная Рэспубліка Беларусь, калі яна будзе мець дзве дзяржаўныя мовы? Гэта раўназначна таму, што ў аднаго дзіцяці дзве «родныя» маці.*

*Кожная незалежная краіна павінна мець адну родную мову — як і дзіця адну маці. Нам не трэба ні паланізатараў, ні русіфікатараў, якія сілай навязвалі нам сваю мову, узяўшы ўладу ў свае рукі. Хопіць! Дзякуй простаму беларускаму народу, які пранёс яе праз усе нягоды, хоць скалечаную і знявечаную. Дык няхай яна будзе адзінай мовай у нашай незалежнай краіне! Жыве Беларусь! (Наталля Есіс з-пад Клецка, п/а Сіняўка, 05.11.92).*

* * *

Калі ў аркестры не хапае аднаго інструмента — сімфонія не атрымліваецца. Наша беларуская мова — гэта дар Божы, каб мы хвалілі Госпада на сваёй мове, і ў гэтым хоры выпадае беларуская мова. За тое, што ў нашых храмах пануюць замежная польская і руская мовы, мы маем пакаранне чарнобыльскай навалай. Надаўшы беларускай мове дзяржаўны статус, мы вяртаем яе ў царкву і касцёл. Калі ўсе вернікі-беларусы розных канфесій будуць хваліць Госпада на беларускай мове — атрымаецца сапраўдная сімфонія. Хай ласка Божая будзе з Вамі! (С. Захарэвіч, г. Мінск, 19.10.92).

* * *

*Шаноўнае спадарства!*

*Вы называеце сябе прадстаўнікамі народа. Але ж паглядзіце ўважліва навокал, як адарваліся вы ад народа! Вы не пытаецеся ў народа, ці патрэбны яму той рэферэндум (а дакладней, судзілішча) па мове, які вы хочаце правесці. Калі чалавек хворы, сапраўдны доктар не пытае яго, ці падабаюцца яму тыя ці іншыя лекі, а лечыць тым, што хутчэй паставіць чалавека на ногі. Тое ж і з беларускаю мовай. Мова — душа народа, а ў беларусаў гэтая душа хворая. Чым жа думаеце вы, прадстаўнікі народа, прыпісваючы яму заведама смяротнае лякарства — другую дзяржаўную мову? Каго вы хочаце падмануць? Народ? На што вы замахнуліся? Мова і народ — катэгорыі вечныя і больш значныя за вашае жыццё. Дык ці маеце вы права судзіць вечнасць?*

*Замест таго, каб спачатку хоць трохі ўзброіцца ведамі па гісторыі, культуры народа, які вы прадстаўляеце, вывучыць яго мову, вы адмаўляеце і гісторыю, і культуру, і мову. Хто ж вы на гэтай зямлі?*

*Шаноўны Ніл Сымонавіч! Ведаючы Вас як сапраўднага БЕЛАРУСА, прашу Вас давесці да ведама Вярхоўнага Савета гэты ліст. Хай ведаюць, што беларуская моладзь бачыць у іх людзей учарашняга дня, не здольных зрабіць ніводнага кроку наперад. Жыве Беларусь! (Алесь Бразуноў, студэнт IV курса філфака БДУ, г. Менск, 23.10.92).*

* * *

Шаноўныя дэпутаты! Што ж Вы робіце з моваю нашаю беларускаю? Колькі ж можна яе таптаць, ганьбіць? Няўжо Вы не разумееце таго, што наданне рускай мове статуса дзяржаўнай ставіць крыж на беларускай у існуючых умовах, а ўвогуле і на беларусах як этнасе.

Народныя дэпутаты *БЕЛАРУСІ*, дык абараніце ж мову нашу беларускую і нас, беларусаў, на Беларусі!

Божа, абарані і ты нас, не дай нам знікнуць з гэтай зямлі! (Аркадзь Хлань, Мінск, 23.10.92).

* * *

*Моя семья из 7 человек считает: государственным языком должен быть белорусский. На сессии многие депутаты хотят ввести русский язык государственным наравне с белорусским. Где же логика? Когда принимается решение на сессии, то оно принимается большинством. Белорусов в республике около 80%, почему же меньшинство, т. е. русские, должно приниматься во внимание? Если принять белорусский и русский языки государственными, то Беларусь не должна называться Беларусью, у нее нет языка, нет суверенитета, нет государственности. В таком случае Республика Беларусь должна называться Руско-Белорусский край. (От семьи М. Костюкевич, г. Минск, 4.11.92).*

* * *

Мы, жыхары мястэчка Будслаў Мядзельскага раёна, з трывогай і болем слухаем выказванні некаторых народных дэпутатаў аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь. Наданне рускай мове статуса дзяржаўнасці ў суверэннай Беларусі ганебна для нас, беларусаў. Гэта здзек як з гістарычнай спадчыны Беларусі, так і з яе нашчадкаў.

Мы спадзяёмся, што Вярхоўны Савет не зробіць гэтай гістарычнай памылкі, абароніць нашу мову ад пагібелі, нацыю ад гістарычнага знікнення. Дзяржаўнай мовай у суверэннай Рэспубліцы Беларусь павінна быць адна — *беларуская*. (Жук В. П., Лапко С. М., Будзько А. К. і іншыя, усяго 25 подпісаў, 4.11.92).

* * *

*Паважаны Вярхоўны Савет! У сувязі з тым, што працэс беларусізацыі ў нашай рэспубліцы ідзе вельмі марудна і нават намецілася шкодная тэндэнцыя да спынення гэтага працэсу, патрабуем Вас улічыць наша пажаданне: адзінай дзяржаўнай мовай у Рэспубліцы БЕЛАРУСЬ ПАВІННА БЫЦЬ БЕЛАРУСКАЯ МОВА* (Студэнты філфака IV курса ГДУ імя Ф. Скарыны Куцапаў А. М., Камісараў А. І., Леўчанка Л. М. і іншых, усяго 97 студэнтаў, 30.10.02).

* * *

Паважаны Станіслаў Станіслававіч! Не дайце зганьбіць роднай мовы! Не загубіце першых парасткаў нацыянальнага Адраджэння! Дзяржаўная мова ў нас адна — беларуская. (Вучні 10 А класа сярэдняй школы № 32 г. Гомеля Афанчанка, Таранава, Сатарасценка, Парашчанка і інш., усяго 20 подпісаў, 03.11.92).

* * *

Мы, вучні дзесятых класаў школы г. Гомеля, слухачы падрыхтоўчага класа вучэбна-вытворчага камбіната II пры кафедры беларускай мовы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны, лічым недапушчальным увядзенне дзвюх дзяржаўных моў у самастойнай і незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

Нам прыходзіцца сёння спецыяльна вывучаць беларускую мову, нашу родную мову, якой нас не вучылі, таму не хочам, каб нашы дзеці не ведалі сваёй мовы, як мы. Хочам, каб у нашай краіне ўсе размаўлялі ці маглі размаўляць на беларускай мове. (23 слухачы ВВК-II, 10.11.92).

* * *

*Шаноўны Ніл Сымонавіч! Паважаныя члены Камісіі!*

*Работнікі ўстаноў культуры Мядзельскага раёна Мінскай вобласці глыбока заклапочаны лёсам нашай роднай беларускай мовы, тым становішчам, у якім апынулася яна зараз пры абмеркаванні новай Канстытуцыі.*

*Колькі ж можна абкрадваць наш народ? І менавіта ў той час, калі так неабходна ўмацоўваць нацыянальны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, у час нацыянальна-культурнага адраджэння, які мы перажываем зараз.*

*Намі з вялікім задавальненнем быў успрыняты Закон аб мовах у Беларускай ССР, прыняты ў студзені 1990 года. Тады здавалася, што ён карэнным чынам зменіць адносіны да беларускай мовы.*

*Але вось мінула амаль тры гады. За гэты час бібліятэкі нашага раёна папоўніліся амаль на 90 тыс. новых выданняў. І сярод іх толькі 16 тыс. кніг на беларускай мове, астатнія рускамоўныя.*

*А мы ж разам з прадстаўнікамі сферы народнай адукацыі павінны дапамагаць людзям авалодваць роднай мовай. Таму адразу ж пасля прыняцця Закона ўсё справаводства ў аддзеле культуры, цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэме было пераведзена на беларускую мову, перааформлены інтэр'еры большасці бібліятэк раёна з улікам беларускага нацыянальнага каларыту, чытачы аб'ядналіся ў такія аматарскія аб'яднанні, як «Бацькаўшчына», «Спадчына», неаднаразова прайшлі святы беларускай кнігі, беларускай культуры, адраджаюцца беларускія святы і абрады.*

*І калі зараз ставіцца пад пагрозу існаванне і развіццё нашай нацыянальнай мовы, то становіцца страшна за нашых нашчадкаў, за нашу будучыню. Мова ж наша — гэта наша гісторыя, наша сучаснасць і наша будучыня. І ніхто не мае права сумнявацца ў гэтым.*

*Вельмі спадзяёмся, што наш Вярхоўны Савет усвядоміць словы нашага выдатнага беларускага паэта Ф. Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» (Л. У. Несцяровіч, Р. М. Ройда, Л. У. Сліжэўская, М. Іванова, В. В. Урбановіч і іншыя, усяго 67 подпісаў, 23.11.92).*

## У Амерыцы — ведаюць, у нас — чакаюць

Гартаючы сёлетні травеньскі нумар часопіса «Тайм», што выдаецца ў Амерыцы, я натрапіў на гутарку з М. С. Гарбачовым з нагоды страты ім крамлёўскай пасады. Сама гутарка асаблівай цікавасці для нас не мае, бо мы — жывыя сведкі тых падзей. Цікавей іншае: у гарбачоўскім тэксце некалькі разоў згадваецца сталіца нашай рэспублікі.

Напэўна, у рускім арыгінале стаяла зрусіфікаванае «Минск», але, відаць, перакладчык (ці рэдактар) ведаюць сапраўднае найменне нашага галоўнага горада. Таму ў англійскім варыянце яны падалі правільна: Mensk.

Звяртаю на гэтую акалічнасць увагу і дэпутатаў Менгарвыканкама. Мне цяжка сказаць, чаго яны чакаюць, калі, урэшце, пазбавяцца каланіяльнага сіндрому і вернуць нашай сталіцы яе роднае, гістарычнае імя.

Мікола БУСЕЛ.

Светлагорскі раён,
в. Дуброва.

## БЕЛАРУСІСТ З ЯПОНІІ

Сталіцу Рэспублікі Беларусь наведаў японскі вучоны Макота Гавасака. Ён пазнаёміўся з супрацоўнікамі Інстытута гісторыі АН нашай рэспублікі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, пабываў у Рэспубліканскай Радзе ТБМ імя Ф. Скарыны.

Пан Макота — даследчык гісторыі краін, якія ў розныя часы ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Ён з'яўляецца аўтарам манаграфіі «Палякі на Балканах». Японскі вучоны выдатна ведае рускую, польскую, літоўскую мовы, а зараз займаецца вывучэннем беларускай.

А. К.

РЭХА

## Усю інфармацыю — на родную мову

Вырашыў напісаць пра сродкі масавай інфармацыі, падтрымліваючы накірунак аўтараў «Нашага слова» (публікацыя «Акупаваны эфір»).

Давайце паглядзім, што мы маем. 80 працэнтаў дзяржаўных газет і часопісаў, атрымліваючы мільённыя датацыі, выходзяць толькі на рускай мове. Тэлебачанне і радыё — шматлікія рускамоўныя перадачы, дзе скрозь пануе абыякавасць да дзяржаўнай незалежнасці і нацыянальнага адраджэння. Цікава атрымліваецца: у перадачы «Панарама» інтэрв'ю з палякам ці кітайцам даецца па-беларуску, а вось з жыхаром тутэйшым — па-руску. Вядома, што руская мова зразумелая большасці беларусаў. Але на Беларусі ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі павінна гучаць пераважна беларускае слова. Гэта не выключае, дарэчы, і перадачы для нацыянальных меншасцяў, якія да таго ж маюць свае друкаваныя органы. Калі ж кіраўнікі і супрацоўнікі Міністэрства інфармацыі гэтага не разумеюць, то трэба з імі развітвацца.

Тэлеканал «Россия». Вельмі цікава, чаму ў нас на Беларусі на ўсю нашу краіну трансліруецца расійскі канал, а не, да прыкладу, украінскі? Тэлеканал «Останкино», аказваецца, з'яўляецца міждзяржаўным. Але толькі мова на тым канале адна. Беларускі карэспандэнт «Останкино» з цудоўным тутэйшым «акцэнтам» Алесь Жук рэдка, але паслядоўна распавядае «общесодружественному» гледачу, як, скажам, плошча перад Домам урада зноў расцвіла «кумачом» ці як жыхары Беларусі «нарекают» на сваё кіраўніцтва за тое, што беларускія праграмы паставілі на больш моцны перадатчык, а «агульнасаюзныя» на менш моцны (!?).

Шаноўнае «Наша слова», я ўпэўнены, што вашу (апошнім часам усё больш патрыятычную) газету чытаюць і народныя дэпутаты Беларусі. Таму звяртаюся да іх.

«Паважаныя дэпутаты! Звярніце асаблівую ўвагу на сродкі масавай інфармацыі рэспублікі. Калі мы не хочам згубіць нашую незалежнасць, калі мы хочам, каб нашы ўнукі жылі ў еўрапейскай дзяржаве, то ўжо сёння неабходна перавесці ўсю інфармацыю (навіны, рэкламу, фільмы і г. д.) на радыё і телебачанні, у газетах на родную беларускую мову! Гэта трэба здзейсніць у самыя сціслыя тэрміны, бо час не чакае.

г. Менск. С. ВАСІЛЕНКА.

# ПРАБЛЕМЫ І ТЭНДЭНЦЫІ

*(Заканчэнне. Пачатак у № 50).*

## VIII. Спрэчкі?

Пасля дакладаў А. Падлужнага і С. Запрудскага пачалася дыскусія. Першым выступіў прафесар Менскага пединстытута А. П. Груца — «Пра мову, норму і рэформу». Ён абураўся «свядомым ці несвядомым» парушэннем арфаграфічных норм і прывёў прыклад з напісаннем мяккага знака паміж падвоенымі зычнымі, што не на карысць аўтарытэту беларускай мовы. А вось іншыя парушэнні, якія не кіруюцца «прынцыпам адштурхоўвання» («інакш, чым у рускай»), — вынікала з далейшых разважанняў Аляксея Пятровіча — можна толькі вітаць.

Прыкладам, ужыванне склонавых формаў *дароге, руке, страхе*, замест адпаведных літаратурнай норме нашай мовы — *дарозе, руцэ, страсе* — А. П. Груца тлумачыць не русіфікацыяй, а аб'ектыўнымі тэндэнцыямі гістарычнага развіцця мовы. «Але ж зусім невыпадкова гэтая літаратурная норма вельмі часта парушаецца за кошт узнаўлення спрадвечных задненёбных» — *г, к, х* (памылкі, такім чынам, падаюцца за прыкмету развіцця мовы). Праўда, Аляксей Пятровіч згадаў, што, магчыма, «гэта абумоўлена не тэндэнцыямі развіцця беларускай мовы, а ўплывам на яе суседняй рускай». Але шмат хто з прысутных зразумеў тэндэнцыю гэтых разважанняў. Назаўтра Павел Сцяцко скажа пра пачуцці — сум і жах,— якія выклікала ў яго прапанова А. П. Груцы пазбавіць нашу мову такой характэрнай рысы — чаргавання *г, к, х з з, ц, с*.

Віктар Вабішчэвіч, настаўнік гісторыі з Давыд-Гарадка, якому далі слова пасля А. П. Груцы, перакананы, што ўсе змены адмоўна адаб'юцца на працэсе навучання школьнікаў, але гэта, на яго думку, не азначае, што не трэба нічога мяняць. Змены патрабуе і правапіс, і лексіка: трэба вяртаць у яе актыў раней шырока ўжывальныя словы. В. Вабішчэвіч пералічыў і некаторыя неспрыяльныя фактары, з якімі непасрэдна сутыкнецца рэформа. Гэта і няведанне новых правілаў самімі настаўнікамі, і адсутнасць падручнікаў, дыдактычных тэкстаў.... А як рыхтаваць старшакласнікаў? Дарэчы, усе гэтыя праблемы абмяркоўваліся калегамі В. Вабішчэвіча ў «перапынках» паміж пасяджэннямі. І шмат хто казаў, што настаўнік, калі ён хоча мець у вучняў аўтарытэт, мусіць заўсёды вучыцца. А той-сёй ужо і вывучае «тарашкевіцу», каб параўноўваць з «наркомаўкай»: вучні ж пытаюцца.

Свaімі думкамі падзяліўся Аляксандр Антонавіч Крывіцкі, вядомы беларускі дыялектолаг з Інстытута мовазнаўства: «Арфаграфічныя паводзіны павінны не толькі дэманстравацца, як гэта назіраецца ў нас зараз, але і сур'ёзна, пераканальна, доказна абгрунтоўвацца іх мэтамі, іх аб'ектыўнай, пільнай грамадскай неабходнасцю... Арфаграфія — не самамэта, а толькі пасрэднік у моўных зносінах». Што ж сабой уяўляюць нашы «моўныя зносіны»? Вядома, пераважае «прастамоўе пад назвай «трасянка». І галоўнай задачай трэба лічыць вяртанне народа «ва ўлонне роднай моўнай культуры». І не так ужо важна, на думку А. А. Крывіцкага, «надаць нашай арфаграфіі, скажам, найбольш самабытнасці або вярнуць яе да сваіх вытокаў», галоўнае, «каб яна не парушыла сувязі нашага беларускамоўнага насельніцтва, у прыватнасці, носьбітаў дыялектнага маўлення, з беларускай пісьмовай літаратурнай мовай». А вось «для нашага небеларускамоўнага насельніцтва арфаграфія павінна выконваць... ролю пасрэдніка для пераходу ад пісьмовай беларускай мовы да беларускага вуснага маўлення». А для гэтага ёсць адзін шлях — «дэталёвае адлюстраванне ў ёй (арфаграфіі — З. С.) усіх асаблівасцей... беларускага вымаўлення».

Вельмі канкрэтныя прапановы падрыхтаваў да канферэнцыі прафесар Гродзенскага універсітэта Павел Сцяцко (выкладзены ў яго артыкуле ў «Настаўніцкай газеце»). Ён мяркуе, што іншамоўныя словы засвойваюцца нашай мовай цалкам, а таму павінны падлягаць усім законам нашага правапісу.

## IX. Пра што гаварылі настаўнікі?

Выступленне В. Вячоркі, выкладчыка і метадыста Беларускага гуманітарнага ліцэя, верагодна, прымусіла некаторых усвядоміць, што і той правапіс, супраць якога выступае афіцыйнае мовазнаўства, таксама мае свае традыцыі. І пачалі яны складвацца сама меней на 20 гадоў раней. Правапіс 1933 года не быў прыняты ў Заходняй Беларусі. Там развівалася і пашыралася «тарашкевіца»: выйшла 6 выданняў «Граматыкі для школ» Браніслава Тарашкевіча. Гэты правапіс ужывалі і аўтары іншых падручнікаў, выдадзеных у Вільні, укладальнікі слоўнікаў. Ім карысталіся і эмігранты, на «тарашкевіцы» выдаваліся дзесяткі часопісаў і газет. І сёння на Беларусі можна налічыць больш дзесяці такіх выданняў.

«Тарашкевіца» мае тэндэнцыю да пашырэння сферы ўжывання.

Такім чынам, В. Вячорка меў падставу сцвярджаць, што сёння існуюць два варыянты беларускай літаратурнай мовы. Забягаючы наперад, скажу, што ў Пастанове канферэнцыі гэта не адзначана.

А пасля слухалі заслужанага настаўніка РБ М. М. Пятрэнку, выкладчыка Полацкага педвучылішча, які мае 56 гадоў стажу, і, як сам сказаў, вучыўся «па Тарашкевічу, па Лёсіку», а таму не было яму цяжка пераходзіць на новы (відаць, 1933 года) правапіс. І хаця Мікалай Макаравіч — адданы прыхільнік існуючага правапісу, ён пералічыў правілы, якія неабходна спрасціць, і нат пакрытыкаваў навукоўцаў: розныя аўтары ў розных падручніках падаюць то 32, то 34 літары беларускага алфавіта... (У беларускай лацінскай абэцэдзе Б. Тарашкевіча,— чую я голас прыхільніка гэтай графікі!) такога разнабою няма — там 32 літары.)

Эмацыянальнае выступленне Алеся Белакоза прыцішыла размовы ў зале. Вядомы настаўнік з Гудзевічаў Мастоўскага раёна згадаў прыкрыя выпадкі і метады, як адвучвалі і настаўнікаў, і вучняў ад беларускага вымаўлення і беларускіх слоў. Некаторыя вучні нават пісалі ў Акадэмію навук, каб укладальнікі граматыкі прытрымліваліся нейкай нормы. Ён звярнуўся да навукоўцаў, каб яны ратавалі спецыфічную рысу нашай мовы — мяккасць, бо без мяккіх зычных яна зніkне, яе чакае лёс лацінскай мовы. Алесь Мікалаевіч папракнуў навукоўцаў, што яны мянялі правапіс дзеля русіфікацыі.

## X. Прапановы навукоўцаў з Гомеля

Грунтоўна выступалі выкладчыкі Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны. Л. П. Кузьміч разважаў пра «Праблемы правапісу мяккага знака» і прыйшоў да высновы, што нікога не трэба будзе асабліва перавучваць — «мяккі знак прымаецца натуральна». А. А. Станкевіч разглядала праблемы правапісу пазычаных слоў і мяркуе, што ён недасканалы. «Нярэдка можна пачуць, што адаптацыя іншамоўнай лексікі, якая мае міжнародны ўжытак, псуе яе, скажае гучанне і перашкаджае яе разуменню, успрыманню. Ці так гэта? Ці змянілі сэнс і ўспрыманне словы ў залежнасці ад іх напісання: *клас* і *кляса*, *біялогія* і *біолёгія*, *газета* і *газэта* і г. д. Відаць, не...» А. А. Станкевіч лічыць, што, наўрад ці магчыма цалкам адаптаваць усю іншамоўную лексіку.

Меркаванні наконт асобных правілаў беларускай арфаграфіі выказала Вольга Ляшчынская. Яе прапановы грунтуюцца на аналізе памылак выпускнікоў школ і студэнтаў філалагічнага факультэта Гомельскага універсітэта. «У большасці выпадкаў,— мяркуе яна,— нашы правілы робяць шматлікія выключэнні ў напісанні за кошт іншамоўных слоў. Падпарадкаванне іх законам нашай фанетыкі і правілам нашага правапісу не зашкодзіць засваенню мовы, а толькі аблегчыць гэту справу».

На вячэрнім пасяджэнні першага дня канферэнцыі не было людна. Складвалася ўражанне, што шмат каго з запрошаных праблемы мовы мала цікавяць.

## XI. На другі дзень...

выступілі навуковыя супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа. Доктар філалогіі В. П. Лемцюгова гаварыла пра скажэнні назваў паселішчаў пры перадачы іх на пісьме. Яна прасіла прысутных звярнуцца да народнай памяці, збіраць і дасылаць у Інстытут мовазнаўства сапраўдныя назвы вёсак і мястэчкаў. А І. І. Лучыц-Федарэц сцісла прааналізавала правапіс нескладовага *ў* у іншамоўных словах. Ён сказаў, што проста і вельмі ясна выклаў гэтае правіла Б. Тарашкевіч. Аднак «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мн., 1959) канкрэтызавалі выпадкі, калі *у* не скарачаецца. А на практыцы атрымалася, што не так лёгка адрозніць, прыкладам, ці *у* ўтварае самастойны склад, як у словах *радыус, страус, соус*, ці не ўтварае яго, як у словах *браўнінг, маўзер*. Таму адны і тыя ж словы ў розных выданнях пішуцца то з *ў*, то з *у*. А яшчэ ён прапанаваў увесці напісанне вялікага Ў ва ўласных назвах, карацей кажучы — «пісаць *ў* (кароткае) ва ўсіх выпадках, апрача лацінскіх слоў накшталт *прэзідыум, кансіліум*, ці румынскіх прозвішчаў *Лівіу, Аўрэліу*». І тут жа ён сам сябе паправіў: «Хаця словы тыпу *прэзідыум* вымаўляюцца як *прэзідыюм, кансіліюм*. То лепш і пісаць іх так». (Каб хто запытаў, навошта ў 1959 годзе трэба было перакручваць простае і яснае правіла?)

Канкрэтныя прапановы падалі Валянціна Раманцэвіч, прафесар Тэхналагічнага інстытута Аляксей Саламонаў, падпалкоўнік Міністэрства абароны Усевалад Танана, прафесар Гомельскага універсітэта Уладзімір Анічэнка, старшыня рады ТБМ АН Беларусі Язэп Станановіч, кандыдат філалагічных навук Іван Крамко.

Пазней папрасіў слова супрацоўнік «Настаўніцкай газеты» Славамір Адамовіч. «Мае вы людцы,— звярнуўся ён да прысутных,— паслухайце, як вы гаворыце і што вы гаворыце?» І журналіст пачаў пералічваць заўважаныя ім у прамоўцаў русізмы, прыклады вымаўлення, якое не адпавядае сучаснай літаратурнай норме... І тады з залы пачалі патрабаваць, каб журналіста прагналі з трыбуны. Адна спадарыня дык нават абвясціла, што да гэтага часу «Настаўніцкую газету» любіла, а цяпер і выпісваць яе не будзе. Слухаць крытыку навучыліся яшчэ не ўсе.

## XII. Што «стукаецца» ў дзверы?

Магчыма, шаноўны чытач захоча ведаць маё меркаванне пра канферэнцыю.

Увесну, калі ў Акадэміі навук яшчэ толькі абмяркоўвалі мэту і тэрмін канферэнцыі, галоўны рэдактар часопіса «Роднае слова» Міхась Шавыркін сказаў, што мяккі знак ужо «стукаецца» ў дзверы.

За гэты час спадар «ь» прыжыўся не толькі ў некаторых рэдакцыях, але і трапіў у рэкламу на трамвайных вагонах. А ў дзверы ўжо стукаецца лацінка: ёсць студэнты, якія пішуць ёю канспекты, у «Наша слова» прыходзяць лісты, напісаныя лацінкай, «Наша ніва» друкуе матэрыялы лацінскім шрыфтам, цалкам лацінкай выдаецца газета «Вільня і край»...

Што выпрацавана на канферэнцыі, бачна ў Пастанове. Зрухаў малавата...

Створана камісія для падвядзення вынікаў канферэнцыі: абвясцілі спіс прадстаўнікоў — па трое ад Акадэміі, ад выкладчыкаў ВНУ, ад ТБМ, ад пісьменнікаў. Забыліся былі ўключыць прадстаўніка ад настаўнікаў...

Камісія павінна за кароткі тэрмін «граматна выкласці» прапановы ўдакладненняў і змен сучаснага правапісу, што падалі ўдзельнікі канферэнцыі. Гэты «звод» яшчэ будзе абмяркоўвацца ў друку. Пасля — урад прызначыць правапісную камісію...

Беларусы маюць «самую старажытную славянскую і дасканала распрацаваную» мову. Здаўна, пачынаючы ад славутага беларускага Златавуста — Кірылы Тураўскага, на нашай зямлі жылі і працавалі майстры слова, друкары і складальнікі граматык і слоўнікаў. І сёння ў Акадэміі, ва універсітэтах і педагагічных інстытутах рэспублікі шчыруюць навукоўцы-філолагі. Назапашана багаты інтэлектуальны дарабак. Дасць Бог, ён паслужыць нашаму народу, ягонай мове.

**Здзіслаў СІЦЬКО.**

У тэксце Пастановы навуковай канферэнцыі «Праблемы беларускага правапісу» («Наша слова», № 50, с. 1) Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа дапушчана недакладнасць. Другі абзац Пастановы трэба чытаць: «Канферэнцыя лічыць мэтазгодным унесці адпаведныя ўдакладненні ў сучасны правапіс».

